

1 лютага 1863 году падпольны правінцыйны камітэт на чале з Кастусём Каліноўскім абвясціў сябе Часовым правінцыйным урадам Літвы і Беларусі. Так распачалася двухгадовая барацьба беларусаў за свабоду грамадзян і незалежнасць краіны.

У 2013 годзе Беларусь адзначае 150-годдзе падзей, якія заклалі ідэйна-гістарычны падмурак новай беларускай дзяржаўнасці.


# Мужыцкая праўда

№ 4 (11) СПЕЦВЫПУСК

Першая рэвалюцыйна-дэмакратычная газета Беларусі.
Выдавалася з ліпеня 1862 па чэрвень 1863 году. Адноўлена ў лютым 2013 у гонар 150 годдзя паўстання.


# Шляхамі касінераў

***У межах лакальнай грамадскай кампаніі «Шляхамі касінераў», што прымеркаваная да 150-годдзя паўстання Каліноўскага 13 - 14 ліпеня адбылася вандроўка па Берасцейшчыне. Удзельнікі змаглі наведаць 9 месцаў, што звязаныя з падзеямі 1863-64 гадоў, даведацца больш пра паўстанне і аддаць даніну памяці беларусам, якія 150 год таму ўзняліся на змаганне з царскім прыгнётам. Гэты нумар газеты прымеркаваны акурат гэтаму маршруту.***

## ЗАКАЗЕЛЬ

Філіяльная капліца ў гэтым мястэчку была пабудаваная з дазволу віленскага біскупа Кланцэвіча ў 1849 г. Аўтарам гэтага неагатычнага шэдэўра стаў вядомы польскі і беларускі архітэктар Францішак Яшчальд (1808–1873), па праектах якога ўзводзіліся многія выдатныя архітэктурныя збудаванні, у тым ліку і на Беларусі: замкі ў Косаве, Вістычах Брэсцкай вобласці, палацы на Палессі і Гродзеншчыне.

Капліца была элементам палацава-паркавага ансамблю, што належаў роду Ажэшкаў. Паводле некаторых звестак менавіта тут хаваўся паранены Рамуальд Траўгут - адзін з найбольш вядомых кіраўнікоў паўстання Каліноўскага, ураджэнец Берасцейшчыны. У ліпені 1863 году з дапамогай Элаізы Ажэшка Траўгут з фальшывым пашпартам, прыкінуўшыся хворым сваяком гаспадыні, прыбыў да мяжы Каралеўства Польскага, і з групай у 20 чалавек сышоў за Буг.

Архіўныя дакументы сведчаць, што Пётр Ажэшка быў абвінавачаны ва ўдзеле ў паўстанні, "у прыняцці ў сябе мяцежнікаў, сярод якіх быў начальнік шайкі Траўгут". Пётр Ажэшка быў асуджаны і сасланы ў Пермскую губерню, дзе ў хуткім часе і памер. А маёнтак яго быў прарададзены царскім уладам. Палац пачалі выкарыстоўваць новыя уладары, а капліца раздзяліла лёс гаспадароў папярэдніх. Яна на доўгі час была зачынена, алтар і начынне вывозілася ці знішчалася, а сам храм пакрысе прыходзіў у занядбанне.


Капліца Ажэшкаў у свае лепшыя часы

Расейскія імперскія ўлады ў першай палове 19 ст. актыўна навязвалі найменне беларус у дачыненні да праваслаўнага (пераведзенага з уніяцтва) сялянскага насельніцтва краю. Яны разлічвалі стварыць «беларускую» альтэрнатыву «ліцвінскаму» самаўспрыманню народу колішняга ВКЛ. Паўстанне Каліноўскага стала сапраўдным шокам для ідэолагаў імперыі. Выявілася, што і самавызначаючыся як Беларусы, народ гэтай краіны ўсё адно ўпарта імкнецца да незалежнасці і вызвалення ад «брацкіх абдымкаў».

Пасля задушэння паўстання назва Беларусь была забаронена, ўжыванне мовы мясцовага насельніцтва жорстка пераследавалася. Вялося актыўнае перасяленне расейскага сялянства на абсягі ўжо «Паўночна-заходняга краю». Аднак імкненне народу да волі і незалежнасці нікуды не знікла. Яно захавалася ў генах «тутэйшых» да больш зручнага гістарычнага моманту. Менавіта яно заўжды падказвала беларусам, дзе - няхай і забароненае - сваё, а дзе - няхай і навязваемае - чужое.

19 стагоддзе было эпохай самавызначэння народаў, адыходу ад саслоўнага грамадства і фармавання нацыянальных дзяржаваў. Менавіта тады на мапе Еўропы з'явіліся назвы большасці сучасных краінаў. Беларусы ў той час не мелі ўласнай дзяржавы. Сама назва Беларусь толькі пачала ўжывацца ў дачыненні да гэтых зямель, адрозніваючы нас ад іншых народаў былога ВКЛ - украінцаў, жамойтаў (летувісаў).

Рэвалюцыя пад кіраўніцтвам Каліноўскага - гэта першая спроба змагання за незалежнасць ужо беларусаў, як цэласнай і аднароднай нацыі. У адрозненні ад ранейшых саслоўных паўстанняў (шляхецкіх 1794 і 1830-х гадоў за аднаўленне Вялікай Літвы і Рэчы Паспалітай, альбо сялянскіх бунтаў) - у рэвалюцыі 1863-64 г. на адным баку сталі і шляхцічы, і мяшчане, і прыгонныя.

Кастусю Каліноўскаму ўдалося спарадзіць агульнае бачанне новай беларускай дзяржавы, незалежнай, і з роўнымі па статусу, вольнымі грамадзянамі. На стагоддзі гэты ідэал стаў марай і мэтай для новых і новых пакаленняў беларускіх патрыётаў.

## ЛАСАСІН

Сімвалічным і вельмі красамоўным можна назваць лёс яшчэ аднаго аб'екта вандроўкі - помніка паўстанцам у вёсцы Ласасін.

24 траўня 1863 г. ля вёскі, што на ўскрайку Ружанскай пушчы, адбылася жорсткая сутычка расейскіх карнікаў з аддзелам паўстанцаў, якімі камандаваў пружанскі шляхціц Уладзімер Шчасны. У аддзеле на той час знаходзіўся і паплечнік Кастуся Каліноўскага Валеры Ўрублеўскі. Паўстанцы панеслі цяжкія страты, 40 чалавек загінулі. Урублеўскі з часткаю атраду вырваўся з атачэння.

Мясцовыя жыхары пахавалі палеглых на месцы бою ў брацкай магіле, паставілі крыж. Ішлі гады, крыж сатлеў, але сяляне з навакольных вёсак памяталі і пра бой, і пра загінуўшых як мясцовае паданне.

Праз 70 гадоў польскія ўлады паставілі на месцы пахавання свой помнік: невялікі абеліск з паліраванага чорнага граніту з выбітым надпісам: «Prochom 40 powstancow polskich poleglych w 1863 r. ...». Змагароў-каліноўцаў, у прынцыпе, як і ўсіх жыхароў Заходняй Беларусі, не запытваючы, залічылі ў палякі.

Пасля чарговай змены палітычнага ладу, калі ўсіх мясцовых жыхароў, па традыцыі ізноў не запытаўшы, залічы-

Польскія рэвалюцыйныя колы, абвесціўшы сябе Польскім нацыянальным урадам у 1863 годзе, разлічвалі адрадзіць Рэч Паспалітую як польскую дзяржаву. У рэвалюцыйнае кіраўніцтва ўваходзілі ў асноўным прадстаўнікі буйных феадальных сем'яў. У паўстанні яны разлічвалі больш на палітычны ціск і дыпламатычную дапамогу іншых краінаў. Сялянскае пытанне ж наогул не разглядалася Варшаўскім камітэтам.

Аднак на Беларусі мэты і шляхі інсургентаў былі іншымі. Кастусь Каліноўскі, які ўзначальваў Літоўскі правінцыйны камітэт, быў заўзятым прыхільнікам фракцыі чырвоных (рэвалюцыянер-дэмакратаў). Яны, у адрозненні ад белых (манархістаў-кансерватараў), адстойвалі персанальныя грамадзянскія свабоды і выступалі за нацыянальнае самавызначэнне народаў былой Рэчы Паспалітай.

Прынцыпы Каліноўскага не падабаліся варшаўскаму кіраўніцтву паўстання, і 27 лютага 1863-га яны дамагліся парадачы кіравання паўстаннем віленскаму камітэту «белых». Аднак пасля капітуляцыі большасці буйных феадалаў у выніку царскіх рэпрэсій, праз 4 месяцы Каліноўскі быў вернуты ў склад Віленскага камітэта, а 31 ліпеня 1863 ізноў узначаліў яго.

У Кастуся Каліноўскага не было жадання здавацца і адступаць. На сваёй зямлі і за сваю зямлю ён змагаўся да апошняга. Ён не пакінуў адданых яму людзей нават калі сілы касінераў пачалі таяць і паўстанне мусіла перайсці да партызанскай барацьбы. Ад мары пра вольную Беларусь ён не адступіўся і перад смерцю - ў ноч перад павешаннем Кастусь Каліноўскі пісаў ліст да свайго народу, дзе заклікаў не спыняць змаганне за волю Радзімы.

лі ў народ савецкі - помнік стаў муляць вока мясцовым ідэолагам. Было прынятае рашэнне яго знішчыць. Але за сваю справу камуністы ўзяліся не надта ахвотна - сам помнік захаваўся. У 1989 годзе мясцовыя актывісты яго знайшлі, адрэстаўравалі і паставілі абеліск на новы пастамент.

Але і гэтым разам помнік прастаяў зусім нядоўга. Загад пра ягонае чарговае руйнаванне афіцыйна ніхто не прымаў. Проста ў 1998 годзе нашыя гераічныя авіятары расстралялі помнік з верталёта - тэрыторыя, на якім месціцца абеліск, часам выкарыстоўваецца пад вайсковы палігон. Помнік паў ахвяраю вучэнняў, хоць ні памерамі, ні формай ён абсалютна не нагадваў самалёт ці танк, муляжы якіх былі расстаўленыя па палігоне. Ці была на тое чыясьці воля - дагэтуль дакладна невядома. У адрозненні ад сваіх папярэднікаў, улада сучаснай Беларусі ўпарта не хоча выказваць сваю афіцыйную пазіцыю адносна спадчыны Каліноўскага ніяк - ні руйнаваннем старых, ні ўсталяваннем новых памятных знакаў. Выпадак назвалі памылкай і прапанавалі забыць.

Але тым, для каго ідэі Каліноўскага жывуць і па сёння, забываць не хацелася. Трэцяе нараджэнне помніка адбылося ў 2000-ым годзе, ініцыятываю, сродкамі і працаю ўсё тых жа грамадскіх актывістаў. 8-га кастрычніка адбылося адкрыццё адноўленага помніку. Помніку з надпісам па-беларуску, прысвечанага загінуўшым беларусам, што быў усталяваны самімі беларусамі. Мабыць, так і варта быць на гэтай зямлі.

## МІЛАВІДЫ

22 траўня 1863 году адбылася самая буйная бітва на тэрыторыі нашай краіны паміж паўстанцамі Каліноўскага і царскімі карнікамі.

У сярэдзіне траўня 1863 году ў лагеры пад Мілавідамі (Слонімскі павет, цяпер Баранавіцкі раён Берасцейскай вобласці) сканцэнтравалася некалькі паўстанцкіх атрадаў: Слонімскі (на чале з Ф. Юндзілам), Ваўкавыскі (Г. Стравінскі), Гродзенскі, Навагрудскі, Пружанскі. Камандаванне аб'яднанымі сіламі ўзяў на сябе былы падпалкоўнік царскага войска Аляксандр Лянкевіч. 21 траўня паўстанцкія сілы ў мілавідзкім лагеры інспектаваў Кастусь Каліноўскі.

Такое буйное фармаванне не магло быць незаўважана. На паўстанцаў царскія ўлады кінулі войскі са Слоніму і Нясвіжу. Першай падышла калона са Слоніму: 3 роты пяхотнага палку з 4 гарматамі і коннай групай. 22 траўня расейскія войскі з розных бакоў атакавалі лагер. Бой працягваўся некалькі гадзін, паўстанцы трывала адстаялі ўсе атакі. Калі стала цямнець, царскія войскі адступілі на зыходныя пазіцыі.

На дапамогу расейцам спяшалася калона з Нясвіжу, і назаўтра атакі мусілі аднавіцца. Паўстанцы прынялі рашэнне пакінуць лагер да падыходу падмацавання і адступілі з пазіцый. Супрацьстаяць царскай арміі ў адкрытых баях інсургенты на той час не мелі моцы (не ставала ўласнай артылерыі, былі праблемы з конніцай і стралковай зброяй), таму аддавалі перавагу больш партызанскай тактыцы.

Бітва пад Мілавідамі сталася значным эпізодам паўстання. Касінерам у баю належала перавага па колькасці забітых байцоў. З іншага боку царскім уладам удалося перайграць паўстанцаў стратэгічна - падзеленыя ізноў на асобныя атрады сілы больш не змаглі ўз'яднацца, адсутнасць сталага лагеру абмежавала магчымасці збору і далучэння новых касінераў да існуючых паўстанцкіх фармаванняў.

Неўзабаве пасля тых падзей расейскі губернатар Мураўёў выдаў інструкцыю аб ваенна-паліцэйскім упраўленні ў краі. Гэта стала пачаткам жорсткіх рэпрэсій як супраць саміх паўстанцаў, так і супраць асоб, якія ім спачувалі. Імперскія служкі распачалі сапраўдны тэрор - шыбеніцы напоўнілі плошчы ўсіх гарадоў Беларусі, за сувязь з паўстанцамі спальваліся цэлыя вёскі, людзей пазбаўлялі маёнткаў і высылалі ў Сібір толькі за тое, што насілі траўр па страчаных інсургентах.

Гэта ў выніку вымусіла значную частку землеўладальнікаў ды і простага насельніцтва адмовіцца ад актыўнай падтрымкі паўстанцам, якую яны аказвалі раней. Накал патрыятычнага уздыму быў збіты, дапамога істотна зменшылася. А хутка і само паўстанне было патоплена ў крыві.

Каля месца Мілавідскай бітвы, на дарозе Берасце-Бабруйск (цяпер шаша Слуцк-Івацэвічы) у 1913 годзе расейскія ўлады ўсталявалі праваслаўны, маскоўскага ўзору, мураваны крыж загінуўшым царскім жаўнерам.


*Камень, капліца і крыж - тры розных помніка адной падзеі*

Насупраць, на іншым баку дарогі, што падзяляе поле бітвы, у 1930 годзе польскі ўрад збудаваў насупраць крыжу каталіцкую каплічку.

У 1988 ужо самі беларусы ўсталявалі на полі камень з памятнай шыльдай, у гонар загінуўшым паўстанцам. Гэтыя тры мемарыялы сімвалічна адлюстроўваюць і падзел у поглядах на тыя падзеі - пра-расейскі, пра-польскі і ўласна беларускі, якія і дагэтуль пануюць у грамадстве і ўпарта не хочуць саступаць адзін аднаму.

Наклад: 299 асобнікаў. Надрукавана на ксераксе.
Выдадзена 29.01.2013 г. Берасце.
Кантакты рэдакцыі:
Віктар Клімус МТС: (029) 227 52 12
Life: (025) 513 19 20
Павел Дайлід: (029) 522 82 30




Больш інфармацыі шукайце тут:
vk.com/grunt_brest
reha.of.by